# НІВА

Год выдання V

№ 41 (241)

9 КАСТРЫЧНІКА

БЕЛАСТОК

Цана 60 гр.

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА


# НАЙВАЖНЕЙШАЕ ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ

Жыццёвая практыка даказвае, што пастаяннае развіццё жывёлагадоўлі рашуча ўплывае на інтэнсіфікацыю ўсёй гаспадаркі. Гэтая справа ўсебакова разглядалася спулдзельцамі Беласточчыны ў мінулым годзе. Ад слоў і планаў спулдзельцы перайшлі да практычнай дзейнасці. Закупілі яны 45 кароў і звыш 40 штук свіней. Гэта дало магчымасць наладзіць супольную жывёлагадоўлю ў тых сельгаскааператывах, у якіх дагэтуль яе не было. Апрача гэтага спулдзельцы прызначылі да далейшай гадоўлі ўсе нованароджаныя штукі.

Дзякуючы гэтым канкрэтным намаганням колькасць кароў на 100 гектараў зямельных угоддзяў узрасла на працягу толькі шасці месяцаў на амаль 9 штук, а колькасць свіней (таксама на 100 га) — на звыш 19 штук. У апошніх месяцах бягучага года спулдзельцы купляць яшчэ 30 штук кароў. Ад гэткіх спулдзельняў, як Крывая, Бельшчына і некалькі іншых, заявы на закупку жывёлы ўжо чакаюць на рэалізацыю.

Карысны для сельгаспадаркі напрамак хуткага росту жывёлагадоўлі ёсць асновай гаспадарчых планаў на 1960/61 г.г. Калі прыняць, што стан жывёлагадоўлі на прысядзібных участках утрымаецца на ўзроўні бягучага года (а вопыт апошніх трох гадоў даказвае, што павінна так быць), і калі да гэтага дабавім планаваны стан супольнай жывёлы, дык тады спулдзельчая жывёлагадоўля ў 1961 г. будзе мець 38 кароў на 100 гектараў зямельных угоддзяў. Гэты сярэдні паказчык ёсць ужо вышэйшы ад сярэдняй ваяводскай у аднаасобніцкай гаспадарцы. Зразумела, што не ўсюды ён аднолькавы. Напрыклад, спулдзельня Шэпетова пасля выканання плану на 1960/61 г. будзе мець на 100 га зямельных угоддзяў аж 65,7 кароў; кааператывы Беластоцкага павета планаваць таксама нямала, бо 49,5 шт. на 100 га, а ў Сямяціцкім павеце — 42,7 шт.

Аднак гэта яшчэ мала. Трэба, каб праўленні паасобных кааператываў, а асабліва ў Гайнаўскім і Сейненскім паветах, яшчэ раз дакладна абмеркавалі

(Працяг на стар. 4)

# З ВІЗІТАМ ДРУЖБЫ

Дружба, якая злучае Беласточчыну з Гродзенскай вобласцю, мае ўжо сваю багатую традыцыю. Выяўляецца яна перш за ўсё ва ўзаемных сардэчных кантактах і абмене вопытам ва ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва.

Беласточчыну неадназова наведвалі ўжо дэлегацыі рабочых, калгаснікаў і культурных дзеячоў Гродзеншчыны. І дэлегацыі Беласточчыны былі частымі госцьмі суседняй Гродзеншчыны, дзе іх заўсёды віталі як дарагіх братоў.

У днях ад 20 да 25 верасня г. г. Беласточчыну наведала партыйна - савецкая дэлегацыя Гродзеншчыны на чале з І сакратаром Гродзенскага абкома Камуністычнай партыі Беларусі тав. Г. Г. Панамаровым і старшынёй Выканаўчага камітэта Гродзенскага абласнога савета — тав. І. С. Кановічам.

Беларускія госці, наведваючы шэраг мясцовасцей Беласточчыны (яны наведалі тэкстыльны камбінат у Фастах, металаапрацоўчае прадпрыемства ў Чорнай Вёсцы, Бельшчыну і Гайнаўшчыну), цікавіліся працай нашай партыйнай арганізацыі і рад нарадовых.

У часе сустрэч з партыйнымі работнікамі, працаўнікамі рад нарадовых і спулдзельцамі, яны шырока расказвалі аб сваім вопыце ў такой жа працы.

Дарагіх беларускіх гасцей усюды, дзе яны толькі былі, насельніцтва Беласточчыны сустракала вельмі сардэчна і радасна.

Ад'язджаючы з Беласточчыны, госці вельмі горача дзякавалі гаспадарам ваяводства за так цёплы і сардэчны прыём, жадаючы Беласточчыне ўсё большых гаспадарчых поспехаў у будове сацыялізма.

(вб)



Беларускія госці наведалі спулдзельню прадукцыйную ў Крывой, Бельскага павета. На здымку: І сакратар Гродзенскага абкома КПБ тав. Г. Г. Панамароў гутарыць са спулдзельцамі.

Фота — Мазурэк

## НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

# Дзе атрымаць добрую кніжку

Ужо закончылася лета. Набліжаюцца доўгія асеннія і зімовыя вечары. У такі час прыемна пасядзець над добрай, цікавай кніжкай.

**— А як выглядае справа з чытальніцтвам кніжак у бібліятэцы гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку?** З гэтым пытаннем звярнуліся мы да сакратара аддзела — Кастуся Хлябіча.

— Нашая бібліятэка, — адказаў сакратар, — існуе ўжо трэці год. Налічвае яна 3.200 кніжак.

**— Якой папулярнасцю карыстаецца яна сярод жыхароў горада?**

— Наогул нядрэнай. Маем ужо 156 пастаянных чытачоў.

**— Ці часта яны наведваюць бібліятэку?**

— О, так. Напрыклад, Жэня Грэсь ужо прачытала 197 кніжак. Шмат таксама чытаюць Уладыслаў Цілюль-

(Працяг на стар. 4)



# САЛДАЦКІЯ БУДНІ

12 кастрычніка — дзень бітвы пад Леніна. Штогод адзначаем гэту слаўную дату, як свята нашага народнага войска.

Народжанае ў бітве, загартаванае ў баях за вызваленне радзімы, Войска польскае нясе цяпер мірную, не менш адказную службу.

З выпадку салдацкага свята прапануем нашым чытачам экскурсію ў салдацкія будні.

Зразумела, нічога не варта сучасная армія без найвейшай тэхнікі. А калі гутарка аб ёй, дык, як у песні пяецца, першай справай — самалёты...

Тое ж самае думае і навігатар паручнік Язэп Карась, які ўваходзіць да рэактыўнага самалёта, каб павесці яго на чарговае, баявое заданне. (Здымак 1).



А гэта паветраныя дэсантнікі. Бачым іх пасля ўдачнага прызямлення. Пры помачы радыёўстаноўкі наладжваюць яны сувязь з іншымі атрадамі (Здымак 2).

Яшчэ дэсант. Гэтым разам марскі. З гэтых заняткаў ніхто не выйдзе сухім... Пасля прымусовага купання ў халоднай вадзе Балтыкі, трэба вострым кідком заняць вызначаныя пазіцыі (Здымак 3).

У гэты час марская супрацьпаветраная абарона адбівае атаку «варожых» самалётаў (Здымак 4).

— Пераправа, пераправа, бераг левы, бераг правы, — так пачынаецца «Пераправа» ў вядомай ваеннай паэме А. Твардоўскага «Васіль Цёркін». Таксама справа маецца і тут. Пяхота атрымала заданне замацавацца на другім беразе і пераправіцца на амфібіі (Здымак 5).

Пераправу пяхоты абяспечваюць кулямётчыкі (Здымак 6) і мінамётчыкі (Здымак 7).

За пяхотай перапраўляюцца танкі (Здымак 8).

— Дружына, у шэрагу збор!

(Працяг на стар. 3)



 

Кур'ёзы

# Як стаць кіназоркаю

На Захадзе ўдзел у «конкурсах прыгажосці» рэкламуецца як адзіная магчымасць для дзяўчат без сродкаў і адукацыі зрабіць «кар'еру». І сапраўды, большасць заходніх кіназорак пачалі сваю кар'еру з заваявання тытула «каралевы прыгажосці.

Аўстрыйка Хані Эрэнштрасер была выбрана «каралевай прыгажосці» Аўстрыі, а затым Еўропы. Ёй прысвоілі ганаровае званне «міс Еўропы». Яна атрымала запрашэнне ад раду кінафірм, аднак пасля пробных здымкаў ёй далі зразумець, што, нягледзячы на прыгожыя ногі і пышны бюст, артысткі з яе не атрымаецца і параілі ёй пашукаць іншае поле дзейнасці. Выйсці замуж за мільянера таксама не ўдалося. Давялося задаволіцца толькі адным: стаць палюбоўніцай вельмі пасрэднага рэжысёра. Здавалася, спадзяванні на бліскучую будучыню зніклі. Тады Хані Эрэнштрасер занялася... крадзяжом каштоўнасцей з ювелірных магазінаў. Пакуль прадаўцы любаваліся прыгажосцю яе бюсту і ног, «міс Еўропы» здымала з вітрын пярсцёнкі, гадзіннікі, брошкі. Яна падарожнічала па краінах Еўропы, пакуль, нарэшце, не трапіла ў рукі лонданскай паліцыі. Супраць яе была ўзбуджана судовая справа, і падкая да сенсацый буржуазная прэса ўзялася апісваць паходжанні «каралевы прыгажосці». На першых старонках газет замільгацелі яе партрэты, і за кароткі час Хані Эрэнштрасер стала еўрапейскай славутасцю. Яе палюбоўнік — рэжысёр зрабіў сцэнарый «Сарока - зладзейка», дзе апісаў паходжанні «каралевы прыгажосці». Па гэтаму сцэнарыю, як паведамляе аўстрыйская газета «Фольксштыме», вядомы заходнегерманскі прад'юсер Курт Ульрых пачаў здымаць фільм. На ролю зладзейкі запрошана сама Хані Эрэнштрасер. Цяпер кар'ера кіназоркі ёй забяспечана...

# Фотавітрына



Будынак на 68 вуліцы у Н'ю-Йорку — сядзіба савецкай дэлегацыі пры ААН.



7 кастрычніка 1949 г. паўстала Германская Дэмакратычная Рэспубліка. На здымку: тама на рацэ Вайда. Аб'ём вадасховішча — 10 млн. м³



Чэхаславакію наведала парламентная дэлегацыя рэспублікі Ганы. На здымку: работніцы тэкстыльнага завода ў Браціславе сардэчна вітаюць заморскіх сяброў.



Нашы параходы плываюць па ўсіх морах свету. На здымку: параход «Леніна» ў аўстралійскім порце — Сыднеі.

# Ці Нігерыя будзе лаяльнай краінай?

1 кастрычніка яшчэ адна афрыканская краіна атрымала незалежнасць. Гэтай краінай з'яўляецца Нігерыя. Яе плошча складае каля 966 тысяч кв. км, а насельніцтва — 35 мільёнаў чалавек. Гэта найбольш густанаселеная краіна Афрыкі. Па колькасці жыхароў яна займае першае месца на афрыканскім мацерыку.

Новая дзяржава мае быць прыкладам правільна праведзенай палітыкі «падрыхтоўкі да незалежнасці» якую ўжо амаль 10 год крыкліва рэкламуе англійскі ўрад. Вось нядаўна прэм'ер Вялікай Брытаніі Макмілан выступіў на форум ААН з аргументам «адпаведнай падрыхтоўкі Нігерыі да самаіснавання». Аднак новую афрыканскую дзяржаву хвалюе шмат унутраных пытанняў, якія ставяць пад сумненне лаяльнасць гэтай краіны ў далейшай будучыні ў адносінах да былых каланізатараў.

Асноўнай праблемай Нігерыі з'яўляюцца супярэчнасці паміж шматлікімі плямёнамі, пражываючымі на гэтай тэрыторыі. Прыгадаем, што ў гэтай краіне існуе прыблізна 250 розных дыялектаў, з якіх аднымі гавораць мільёны людзей, а другімі сотні. А колькасць этнічных груп, зразумела, яшчэ большая.

Дзякуючы качавому спосабу жыцця кожная частка краіны мае, уласна кажучы, сваё нацыянальнаменшаснае пытанне. Гэта і з'яўляецца прычынай няспынных канфліктаў. Ужо ў часе ўрачыстасцей з выпадку абвяшчэння незалежнасці, на поўдні краіны, 650 км ад сталіцы Лагос, дайшло да хваляванняў. Вось супроць мусульманскіх уладароў плямён, якіх устанавілі брытанскія ўлады, збунтавалася меншасць іншага веравызнання. Насельніцтва ў гэтым раёне дамагалася для сябе аўтаноміі. Гэты факт з'яўляецца для руплівых арганізатараў урачыстасцей абвяшчэння незалежнасці Нігерыі надзвычай непрыемнай нечаканасцю. Ён перакрэсліў надзеі на «свяшчэнны мір» у краіне.

Сваё імперыялістычнае панаванне ў Нігерыі Англія абаперла на ўладзе плямён. Гэтая сістэма аказала сваё ўздзеянне на палітычнае жыццё краіны. Менавіта, палітычныя партыі таксама абапіраюцца на сувязі плямён. Вялікая адсталасць у Нігерыі выклікала перавагу правых груповак у палітычным жыцці, якія намагаюцца, прынамсі пакуль што, захаваць шчыльныя сувязі з брытанскай метраполіяй. Самай сільнай партыяй з'яўляецца зараз т. зв. Народны Кангрэс Поўначы, які гуртуе найбольш адсталую і кансерватыўную мусульманскую грамадскасць. Правадыром гэтай партыі з'яўляецца сучасны прэм'ер Нігерыі Балева. Кангрэс мае 142 мандаты ў парламенце.

Другой па значэнню ёсць т. зв. Нацыянальная Рада Нігерыі і Камеруна, гуртуюча членаў племя Ібо. Хаця яе праграма мала розніцца ад Народнага Кангрэсу, аднак узначальвае партыю прагрэсіўны дзеяч Азыківэ. Імперыялісты з мэтай абмежавання яго дзейнасці назначылі Азыківэ генеральным губернатарам краіны. Гэтая функцыя абмяжоўваецца толькі да прадстаўніцтва. Нацыянальная Рада мае ў парламенце 89 мандатаў.

Адзіную апазіцыйную сілу (прынамсі да гэтага часу) ўяўляе сабою партыя, якую называюць тут «Групай дзейнасці». Мае яна ў парламенце 72 галасы. У процілегласці да двух астатніх партый, гэтая з'яўляецца староннікам утварэння Уніі Заходне - Афрыканскіх дзяржаў. У яе склад уваходзілі б былыя французскія калоніі а таксама Гана, Ліберыя, Партугальская і Іспанская Гвінея. Пытанне адносін да іншых краін Заходняй Афрыкі з'яўляецца асновай замежнай палітыкі новай дзяржавы.

Паводле планаў Англіі Нігерыя можа быць процівагай для прагрэсіўных уплываў Ганы і Гвінеі.

УЛ. ЛАЗІНСКІ




— Калі ласка, сядайце.

Мары Ларан апусцілася ў глыбокае скуранае крэсла. Пакуль прафесар Керн чытаў пісьмо, яна агледзела кабінет.

— Які змрочны пакой! Але працаваць тут добра: нішто не адцягвае ўвагі.

Пераведшы позірк на Керна, Ларан мімаволі ўсміхнулася: сам прафесар нагадваў стыль кабінета. Нібы высячана з дуба, цяжкая, суровая фігура Керна здавалася часткай мэбліроўкі.

— Калега Сабаце гаварыў ужо аб вас. Так, мне патрэбна памочніца. Вы медычка? Выдатна. Сорак франкаў у дзень. Снеданне, абед. Але я стаўлю адну ўмову...

Пастукаўшы сухім пальцам па стале, прафесар Керн задаў нечаканае пытанне:

1

— Вы ўмееце маўчаць? Усе жанчыны балбатлівы. Вы жанчына — гэта дрэнна. Вы прыгожы — гэта яшчэ горш.

— Але што супольнага...

— Вельмі многа. У вас можа быць муж, сябра, кавалер. І тады ўсе таямніцы да д'ябла.

— Але...

— Ніякіх «але»! Вы павінны быць нямой, як рыба. Вы павінны маўчаць аб усім, што ўбачыце і пачуеце тут. Папярэджваю: невыкананне ўмовы паставіць вас у вельмі непрыемнае становішча. Вельмі непрыемнае.

— Я згаджаюся, калі ва ўсім гэтым няма...

— Злачынства, хочаце сказаць? Можаце быць спакойны. І вам не пагражае ніякая адказнасць... Вашы нервы ў парадку?

— Я здарова...

— Алкаголікаў, неўрастэнікаў, эпілептыкаў, вар'ятаў не было ў родзе?

— Не.

Сухі, востры палец Керна ўпіўся ў кнопку электрычнага званка.

Дзверы бясшумна адчыніліся. У іх з'явіўся негр.

— Джон! Пакажыце мадэмуазэль Ларан лабараторыю.

Негр кіўнуў галавою, прапануючы ісці за ім, і адчыніў наступныя дзверы. Ларан увайшла ў цалкам цёмны пакой. Запалілася святло. Пасярод пакоя — вялікі празектарскі стол. Побач — шкляная скрынка; у ёй пульсавала чалавечае сэрца. Ад сэрца ішлі трубкі да балонаў.

Ларан павярнула галаў убок і раптам убачыла нешта, што прымусіла яе ўстрасянуцца, як ад электрычнага ўдару.

2

На яе глядзела чалавечая галава — адна галава без тулава.

Яна была прымацавана да квадратнай шклянай дошкі. Дошку падтрымлівалі чатыры высокія металічныя ножкі. Ад перарэзаных артэрыяў і венаў, праз дзіркі ў шкле, ішлі трубкі да балонаў. Больш тоўстая трубка выходзіла з горла і злучалася з вялікім цыліндрам. Цыліндр і балоны мелі краны, манаметры, тэрмометры і невядомыя Ларан прылады.

Галава ўважна і засмучана глядзела на Ларан, рухаючы павекамі. Не магло быць сумнення: галава жыла, адлучана ад цела, самастойным і свядомым жыццём.

Нягледзячы на страшнае ўражанне, Ларан не магла не прыкмеціць, што гэта галава здзіўляюча падобна да галавы нядаўна памершага вядомага вучонага — хірурга, прафесара Дауэля, які праславіўся сваімі доследамі ажыўлення органаў, выразаных са свежага трупа. Ларан неаднойчы была на яго бліскучых лекцыях... Так, гэта была галава прафесара Дауэля.

Ларан, як зачараваная, не магла адарвацца ад яе. Галава бязгучна шавяльнула губамі.

Гэта было занадта для нерваў Ларан. Яна амаль не страціла прытомнасці. Негр падтрымаў яе і вывяў з лабараторыі.

— Гэта страшна, гэта страшна..., — паўтарала Ларан, седзячы на крэсле.

Прафесар Керн моўчкі бубніў пальцамі па стале.

— Скажыце, няўжо гэта галава?...

— Прафесара Дауэля? Так, гэта яго галава. Галава Дауэля, майго памершага паважанага калегі. Я ёй вярнуў жыццё. На жаль, я мог уваскрэсіць адну галаву. Не ўсё даецца адразу. Уміраючы,

3



 

# САЛДАЦКІЯ БУДНІ





(Працяг са стар. 1)

ка! Руўнай да ногі! — чуецца каманда. Гэта пачынаюцца заняткі ў школе... трэсуры службовых сабак ВОП. Тут штодзённыя заняткі працягваюцца каля 5 гадзін. Маладыя аўчаркі, закваліфікаваныя «медыцынскай камісіяй» праходзяць жорсткую, васьмімесячную ваенную службу. Пасля «вучобы» нясуць яны адказную службу ў якасці «таварышаў па аружжы» і памочнікаў нашых вапістаў на граніцы. Мы трапілі на сабачую «матуру». Экзамен з гімнастыкі — пераадольванне тору перашкод (здымак 9).

Кожны салдат хоць раз за сваю службу прымаў удзел у вайсковым парадзе і добра ведае, колькі працы трэба ўлажыць, каб потым, у часе параду, выклікаць захапленне сярод цывільнай публікі. А для кампаніі ганаровай парад — штодзённы хлеб. Тут заўсёды ўсё павінна быць зашпілена на апошні гузік, вычышчана да сонечнага бляску і выстраяна ў струнку. (здымак 10).

— Але такая ўжо салдацкая доля, — як кажа песня. Ї так, як з песні слоў не выкінеш, так з салдацкай службы не здымеш салдацкіх абавязкаў. (ха)

# У ГОРАДЗЕ — ПАРКУ

Кіеў — сталіца Савецкай Украіны — вітаў нас здалёк высокай, дзевяностапяціметровай пазалочанай вежай славутага манастыра, існуючага ад паловы XÏ стагоддзя — Кіева — Пячэрскай Лаўры. Неўзабаве цягнік наш спыняецца на кіеўскім вакзале.

Першае гарачае прывітанне кіеўлян, першыя прамовы... Спяшаемся да аўтобусаў. У нас толькі адзін дзень пабыўкі ў Кіеве. Кожны з нас прагна жадае пазнаёміцца з адным з найпрыгажэйшых гарадоў Савецкага Саюза, а адначасова найстарэйшым горадам усходняй Славяншчыны, «маткай рускіх гарадоў», якім з'яўляўся Кіеў у мінуўшчыне. У Кіеве надта многа гістарычных помнікаў — ад самых старынных да зусім новых.

Знаходзімся на галоўнай кіеўскай вуліцы — вядомым Крэшчаціку, дашчэнту разбураным гітлераўскімі акупантамі і адбудаваным у пасляваенныя гады ў зусім новай форме. Аўтобусы перакідаюць нас з аднаго месца горада ў другое. Мінаем жоўтыя крэпасныя муры даўняга Арсенала і «Гроб Аскольда», дзе быццам бы пахавана ў ÏX стагоддзі легендарнага кіеўскага князя Аскольда. У старым цэнтры Кіева красуецца пабудаваны ў XÏ стагоддзі кафедральны сабор св. Софіі. На пляцы побач з саборам стаіць манументальны помнік нацыянальнаму ўкраінскаму герою Багдану Хмельніцкаму. Вяртаемся на Ўладзімірскую Горку, на якой знаходзіцца саракаметровай вышыні помнік князю Уладзіміру. Вось адгэтуль, з Уладзімірскай Горкі, відаць велічную панараму Кіева, размешчанага на высокім правым беразе Дняпра. Надзвычай захапляючая панарама горада! Раскінуўся ён на крутых маляўнічых узгорках і мясцамі зусім хаваецца ў густой зелені паркаў і садоў. Унізе ці-

(Працяг на стар. 5)











Дауэль завяшчаў сваё цела для навучных доследаў, якія мы вялі з ім супольна. Ї я атрымаў яго цела. Мне ўдалося не толькі ажывіць яго сэрца, але і ўваскрэсіць свядомасць, уваскрэсіць душу. Што ж тут страшнага? Людзі лічылі дагэтуль страшнай смерць. Ці ж уваскрашэнне з мёртвых не было тысячагадовай марай чалавецтва?

— Я б выбрала смерць, чым такое ўваскрашэнне.

— Так, яно мае свае адмоўныя бакі для ўваскрэшанага. Беднаму Дауэлю было б нявыгадна паказацца публіцы ў такім... няпоўным выглядзе. Вось чаму мы абстаўляем таямніцай гэты дослед.

Ї каб перавесці гутарку на іншую тэму, прафесар Керн спытаў: — Ї так, вы прымаеце маю прапанову? Выдатна. Я чакаю вас заўтра а дзевятай. Але памятайце: маўчанне, маўчанне і маўчанне.

На другі дзень Ларан пазнаёмілася са сваімі абавязкамі. Яны былі нескладаныя. Ларан павінна была на працягу дня сачыць за апаратамі, якія падтрымлівалі жыццё галавы. Ноччу яе змяняў Джон.

Прафесар Керн вытлумачыў ёй, як трэба абыходзіцца з кранамі ля балонаў. Паказваючы на вялікі цыліндар, ад якога ішла тоўстая трубка да горла галавы, Керн строга забараніў ёй адкрываць кран цыліндра.

— Калі павярнуць кран, галава будзе неадкладна забіта.

У адну з ноздраў галавы быў глыбока ўстаўлены маленькі тэрмометр. У вызначаныя гадзіны трэба было вымаць яго і запісваць тэмпературу. Ларан сачыла і за тэмпературай вадкасцей і ціскам у балонах. Асобны апарат, прыстаўлены да скроні, адзначаў пульсацыю.

4

Мары паступова прызвычаілася да галавы і нават пасябравала з ёю. Калі Ларан раніцай уваходзіла ў лабараторыю, галава слаба ўсміхалася да яе і павекі дрыжалі ў знак прывітання.

Галава не магла гаварыць. Але між ёю і Ларан хутка ўстанавілася ўмоўная мова. Апусканне галавою павекаў азначала «так», падняцце ўверх — «не». Крыху памагалі і бязгучна шавяліўшыяся губы.

Раніцай, да прыходу прафесара Керна, галава займалася чытаннем. Ларан прыносіла кучу апошніх медыцынскіх журналаў і кніг і паказвала іх галаве. Галава прагледжвала. На патрэбным артыкуле шавяліла бровамі. Ларан клала журнал на пюпітр, і галава паглыблялася ў чытанне.

Калі трэба было на палях нешта адзначыць, галава рабіла знак, і Ларан праводзіла пальцам па радках і, сачыўшы за вачыма галавы, адзначала алавіком лінію, на палях.

Аднойчы Ларан спытала:

— 'кажыце, навошта мы адзначаем некаторыя месцы ў навучных артыкулах?

Галава паглядзела на Ларан, потым на кран, ад якога ішла трубка да горла галавы, і два разы падняла бровы. Гэта абазначала просьбу. Ларан зразумела, што галава хоча, каб адкрылі гэты забаронены кран. Ужо не першы раз галава звярталася да яе з такою просьбай. Але Ларан тлумачыла жаданне галавы па свояму: галава, відавочна, хоча пакончыць са сваім бязрадасным іс-

5

наваннем. Ї Ларан не мела адвагі адкрыць забаронены кран. Яна не хацела быць віноўніцай смерці галавы, баялася і адказнасці, баялася страціць месца.

— Не, не, — са страхам адказала Ларан на просьбу галавы. — Калі я адкрыю гэты кран, вы памрэце. Я не хачу, не магу, не асмелюся забіваць вас.

Ад нецярплівасці і ўсведамлення бяссілля па твару галавы прайшла сутарга. Тры разы яна энергічна падымала ўверх павекі і вочы:

«Не, не, не. Я не ўмру!» — так зразумела Ларан.

Яна хісталася.

Галава пачала бязгучна шавяліць губамі, і Ларан паказалася, што губы намагаюцца сказаць: «Адкрыйце. Адкрыйце. Умаляю!...»

Ларан адчувала, што тут скрываецца нейкая таямніца. У вачах галавы свяціўся бязмежны сум. Вочы прасілі, умалялі, загадвалі. Здавалася, уся моц чалавечай думкі, усё напружанне волі сканцэнтравалася ў гэтым позірку.

Ларан вырашыла.

Яе сэрца моцна білася, рука дрыжала, калі яна асцярожна адкрыла кран.

Тут жа з горла пачулася шыпенне. Ларан пачула слабы, глухі, надломлены голас, які сыкаў, бы запсуты грамафон:

— Дзя-ку-ю... вам...

На твары галавы было задаваленне.

Але ў гэты момант пачуліся крокі з кабінета. Ларан ледзь паспела закрыць кран. Горла галавы перастала шыпець. Увайшоў прафесар Керн.

(Працяг на стар. 7)

6

## »Ніва« вітае »Аушру«

Штодзённая рэдакцыйная пошта прыносіць нам шмат лістаў і часопісаў. Што ж, гэта нармальная з'ява. Аднак нядаўна ранішняя пошта была для нас сапраўднай прыемнай нечаканасцю. У рэдакцыі з'явіўся новы часопіс «Аушра». Гэта выданне Галоўнага Праўлення Літоўскага грамадска-культурнага таварыства. Літоўцы вельмі прыгожа назвалі сваю аднадзёнку — «Світанне».

Як вядома, у нашай краіне пражывае пэўная нязначная колькасць літоўскага насельніцтва. Засяроджваецца яно, галоўным чынам, на Сувальшчыне, у аколіцах Пунска і Сейн. Тут ад 1956 года дзейнічае Літоўскае Таварыства. Дзякуючы яго намаганням паспяхова разгортваецца культурнае жыццё, існуюць мастацкія самадзейныя гурткі, школы, а ў самым Пунску дзейнічае Літоўскі Дом Культуры. І вось «Аушра» — шасцістраніцовы багата ілюстраваны часопіс — змяшчае матэрыялы аб розных праявах жыцця літоўцаў у Польскай Народнай Рэспубліцы. Тут адзначаюцца знамянальныя падзеі, з якімі спалучыўся выхад часопіса. Ва ўступным слове, у прыватнасці, чытаем: «Гэтае выданне ўбачыла дзённы свет у той час, калі Народнай Польшчы споўнілася шаснаццаць год, калі Савецкая Літва, адзначыўшы дваццацігоддзе з дня ўтварэння, гучыць радаснымі мелодыямі святочных песень, калі, урэшце, мінула 550 год вялікай Грунвальдскай перамогі, у якой аб'яднаныя польска - літоўскія сілы пры помачы рускіх і чэхаў знішчылі магутнасць Крыжацкага ордэна». Першая старонка часопіса і змяшчае Грунвальдскі помнік, а далей друкуе артыкул, абмяркоўваючы слаўную перамогу.

«Аушра» знаёміць чытача з дасягненнямі Народнай Польшчы і Савецкай Літвы. Тут таксама цікавы матэрыял аб грамадска - культурным жыцці літоўцаў на Сувальшчыне, змяшчаюцца вучнёўскія вершы і фатаграфіі. Вось група дзяўчат у прыгожых народных уборах, далей бачым здымак са школьнага жыцця, а побач з ім фатаграфія дзевяностапяцігадовага яшчэ бадзёрага жыхара вёскі Шлінакемаі і шмат іншых.

«Ніва» сардэчна вітае выхад брацкага літоўскага часопіса «Аушра» і жадае яму, каб услед за світаннем наступіў пагодны сонечны дзень, каб і літоўцы маглі цешыцца сваім родным словам.

Эмка

AUŠRA

LIETUVIŲ VISUOMENINĖS KULTŪROS DRAUGIJOS CENTRO VALDYBOS VIENKARTINIS LEIDINYS – 1960 RUGSĖJIS
JEDNODNIÓWKA ZARZĄDU GŁÓWNEGO LITEWSKIEGO TOWARZYSTWA SPOŁECZNO-KULTURALNEGO – WRZESIEŃ 1960 R.

## Дзе атрымаць добрую кніжку

(Працяг са стар. 1)

ко, Сакрат Яновіч і Мікола Гайдук. Наогул у нашай бібліятэцы ўжо прачытана каля 1000 кніжак.

**— Якія аўтары карыстаюцца найбольшай папулярнасцю сярод чытачоў бібліятэкі?**

— Найбольш любімымі аўтарамі з'яўляюцца Міхаіл Шолахаў, Іван Мележ, Міхась Лынькоў, Кузьма Чорны, Кандрат Крапіва, Пятрусь Броўка, Цішка Гартны, ну і зразумела, Янка Купала і Якуб Колас.

**— Ці ў плане працы аддзела прадбачаны нейкія мерапрыемствы дзеля павялічэння колькасці чытачоў?**

— Зразумела, што так. У сярэдніх школах горада шмат беларускай моладзі. І таму паложым галоўны націск на папулярызацыю нашай бібліятэкі сярод школьнікаў. З гэтай мэтай хочам правесці некалькі гутарак у школах аб нашай бібліятэцы.

— Жадаем поспеха у працы і шмат чытачоў у асеннезімовым перыядзе.

(вб)

## Шырэйшую дарогу свецкаму жыццю ў вёсцы

18 верасня адбылася ў Бельску нарада вясковых актывістаў Таварыства свецкай школы. На нарадзе прысутнічала звыш 150 дэлегатаў з Беластоцкага, Бельскага, Гайнаўскага, Сакольскага і Сямяціцкага паветаў. Вёў нараду пасол на Сейм ПНР Іван Мацеюк.

У дакладзе, з якім выступіў старшыня павятовага праўлення ТСС у Бельску грам. Сэвэстыяновіч, гаварылася аб неабходнасці шырэйшай дзейнасці таварыства сярод насельніцтва вёсак.

— Дзейнасць нашага таварыства ў вёсках, — гаварыў дакладчык, — павінна быць накіравана на ўвядзенне поўнага свецкага жыцця, каб зусім не навучаць рэлігіі ў школах.

ТСС на тэрыторыі гэтых паветаў зусім маладая арганізацыя. А ўсё ж мае яна ў сваёй дзейнасці нядрэнныя вынікі.

— У выніку добрай працы таварыства, — гаварыў на нарадзе грам. Доўбыш з Саколкі, — сёлета ў ніводнай школе на Сакольшчыне не будзе навучацца рэлігіі.

На Сакольшчыне за справу свецкага выхавання ўзяліся настаўнікі. На педагагічных радах яны масава прынялі пастановы аб тым, што духоўныя асобы не могуць мець нічога супольнага са школай, і, што навука рэлігіі не можа выкладацца ў школе. Добрыя вынікі працы мае таварыства і ў Беластоцкім павеце. Тут на 120 школ толькі ў дзвюх навучаецца рэлігія.

Выступаючыя ў дыскусіі звярнулі ўвагу на ўсё яшчэ малую дзейнасць таварыства, калі разыходзіцца аб фармаванне свецкіх пераканнанняў у шырокіх масах сялянства.

У заключэнні нарады прынята пастанову, якой будуць кіравацца ў далейшай дзейнасці павятовыя праўленні ТСС. Пастанова забавязвае праўленні таварыства наладзіць цеснае супрацоўніцтва з грамадскімі і палітычнымі арганізацыямі, якія дзейнічаюць на тэрыторыі вёсак, шырэй уключыць да працы ў ТСС вясковых настаўнікаў, наладзіць цеснае супрацоўніцтва з бацькоўскімі камітэтамі і пастаянна апекавацца асабліва тымі школамі, у якіх ужо не навучаецца рэлігія.

(вб)

## Калектыў песні і танца атрымаў дыплом

Міністэрства Культуры і цэнтральная арганізацыйная камісія Вялікага фестывалю музыкі, песні і танца 1960 — 1961 г. г. прызнала Беларускаму народнаму калектыву песні і танца пры ГП БГКТ дыплом за ўдзел у фестывалі мастацкіх калектываў нацыянальных меншасцей, які адбыўся ў гэтым годзе ў Варшаве з выпадку Тысячагоддзя Польскай Дзяржавы.

Таксама дыпломы атрымалі хармайстар Міхась Ануфрыеў, харэограф Таццяна Гіжэўская і адзінаццаць салістаў калектыву.

## Найважнейшае жывёлагадоўля

(Працяг са стар. 1)

свае магчымасці, бо стан жывёлагадоўлі (каля 30 шт. на 100 га), які яны плануюць, выдаецца шмат заніжаны. Справа ў тым, каб у наступным годзе спулдзельцы маглі дапрацавацца ў сярэднім 42 штукі на 100 гектараў зямельных угоддзяў. Гэта зусім рэальная задача. У прыватнасці, трэба далей таксама, як і ў гэтым годзе, увесь прыплод спулдзельчага статку прызначыць да далейшай гадоўлі, карыстаць з хуткаамартызуючыхся дзяржаўных пазык, запэўніць пастаянны заатэхнічны догляд і змяніць структуру пасеваў на карысць кармавых структур.

**ЮЛЬЯН ПОЛУДНЯК**
**Кіраўнік бюро Ваяводскага саюза сельгасспулдзельні.**

С. С. СМІРНОЎ

# НЯЗМЕ ВАР

(Пачатак у папярэднім нумары)

Што адчуў гэты чалавек, калі ўвесь страшэнны сэнс таго, што адбылося, дайшоў да яго свядомасці? Ці то кінуўся ён, спатыкаючыся і стукаючыся ў цемры аб сцены, туды, дзе быў выхад, пакуль не наткнуўся на свежы завал, які толькі што шчыльна адгарадзіў яго ад святла, ад жыцця, ад людзей. Ці то ў адчаі і шаленстве крычаў ён, клічучы на дапамогу, пасылаў праклёны тым, хто забыўся пра яго, зажыва пахаваў у гэтай глыбокай магіле. Ці то ўраўнаважаны, загартаваны характар бывалага салдата прымусіў яго больш спакойна аднесціся да таго, што адбылося. І, магчыма, пераканаўшыся ў непапраўнасці таго, што здарылася, ён прывычна скруціў салдацкую «казіную ножку» і, зацягваючыся едкім махорачным дымам, пачаў абдумваць сваё становішча.

Між іншым, калі нават салдат на нейкі час паддаўся зразумеламу ў такіх умовах адчаю, ён хутка павінен быў усвядоміць, што зрабіць ужо нічога нельга, і, безумоўна, перш за ўсё пачаў знаёміцца са сваім падземным жыллём.

У складзе былі вялікія запасы сухароў, кансерваў і іншых самых разнастайных прадуктаў. Калі б разам з вартавым тут, пад зямлёй, апынулася ўся рота, то і тады гэтага хапіла б на многа гадоў. Тут аказаліся нават махорка, запалкі і многа стэарынавых свечак.

Тут была і вада. Вакол Брэста нямала балоцістых, сырых месц, і грунтовыя воды тут знаходзяцца недалёка ад паверхні зямлі. Сцены падземнага склада заўсёды былі вільготныя, і дзе-ні-дзе на падлозе пад нагамі хлюпалі лужыны. Значыцца, і смага не пагражала салдату. Скрозь нейкія нябачныя поры зямлі ў склад пранікала паветра, і дыхаць можна было без цяжкасці. А потым салдат убачыў, што ў адным месцы ў скляпенні тунеля прабіта вузкая і доўгая вентыляцыйная шахта, якая выходзіць на паверхню зямлі. Гэтая адтуліна, на шчасце, засталася не зусім засыпанай, і скрозь яе зверху пранікала мутнае дзённае святло.

Такім чынам, у замураванага ў падзямеллі салдата было ўсё неабходнае, каб падтрымліваць сваё жыццё неабмежавана доўгі час. Заставалася толькі чакаць і спадзявацца, што рана ці позна руская армія вернецца ў Брэст, і тады засыпаны склад раскапаюць, а ён зноў вернецца да жыцця і да людзей. Але, марачы аб гэтым, ён напэўна, ніколі не думаў, што пройдзе столькі гадоў, перш чым настане дзень яго вызвалення.

Магчыма, за гэтыя гады салдат рабіў якія - небудзь спробы самастойна выбрацца наверх, пракапаць сабе ход на паверхню зямлі? Гавораць, быццам у яго былі штых і нож, і, мяркуючы па тым, што мы ведаем пра яго, ён меў актыўны і ўпарты характар. Наўрад ці сядзеў ён склаўшы рукі на працягу дзевяці год, і пасіўна чакаў, калі прыйдзе дапамога. Ці былі такія спосабы і чаму яны пацярпелі няўдачу, пакуль застаецца невядомым.

Самая жывая фантазія была б бяссільнай уявіць сабе, што перажыў і перадумаў падземны вязень за гэтыя дзевяць гадоў. У вечным змроку яго турмы час павінен быў пацягнуцца нясцерпна марудна. А ён быў адзін на адзін з сабой, са сваёй памяццю, якая захоўвала, відаць, толькі нешматлікія падзеі параўнаўча небагатай біяграфіі яшчэ зусім маладога чалавека. Колькі незлічоных разоў за гэтыя гады павінна было зноў і зноў прайсці перад ім пражытае жыццё ва ўсіх сваіх самых нязначных падрабязнасцях — і тых, што помніліся, і тых, што, будучы забытымі, успаміналіся яму толькі цяпер! З якой яскравасцю ў гэтай суцэльнай цемры паўставалі перад ім дарагія яму твары родных і блізкіх людзей, таварышаў — салдат! Як, баючыся забыць жывую гаворку, гадзінамі размаўляў ён уголас з гэтымі зданямі сваёй памяці ці з самім сабой! Як у глыбокай магільнай цішыні падзямелля, куды не пранікаў ніводны водгук вялікіх гістарычных падзей, што адбываліся на зямлі, ён часам пакутліва стараўся ўявіць сабе, што адбылося за гэты час там, наверсе! Але якія б меркаванні ні прыходзілі ў галаву салдату, ён не мог прадугледзець галоўнага, што здарылася ў свеце, і не ведаў, што на трэці год свайго падземельнага жыцця ён стаў грамадзянінам новай сацыялістычнай дзяржавы.

Аднак у яго падземным жыцці былі свае падзеі, якія парушалі аднастайнае цячэнне часу і падвяргалі яго іншы раз нялёгкім выпрабаванням.

Як ужо гаварылася, на складзе захоўваліся запасы стэарынавых свечак, і спачатку салдат мог асвятляць сваё падзямелле. Расказваюць, што аднойчы ноччу свечка, якая гарэла, выклікала пажар, і калі вартавы прачнуўся, задыхаючыся ў густым дыме, склад быў ахоплен полымем. Яму прыйшлося весці адчаянную барацьбу з агнём. Урэшце абпалены і ледзь не задыхнуўшыйся, ён усё ж здолеў патушыць пажар, але пры гэтым згарэлі застаўшыеся запасы свечак і запалак, і з гэтага часу ён быў асуджан на вечную цемру.

А потым яму прыйшлося весці сапраўдную вайну, цяжкую, упартую і пакутліва доўгую. Ён аказаўся не адзіным жыхаром падзямелля: на складзе вадзіліся пацукі. Спачатку ён нават абрадаваўся таму, што тут, акрамя яго, былі іншыя жывыя істоты. Але пацукі пладзіліся з такой жахлівай хуткасцю і трымалі сябе так дзёрзка, што неўзаба-

# Жыве з ныркай свайго брата

Перашчапіць здаровы орган аднаго чалавека на месца хворага органа другога — справа цяжкая ў медыцыне і яшчэ да нядаўна — увогуле немагчымая.

Чаму гэта так цяжкае? Бо арганізм чалавека кожную не сваю клетку ўспрымае як чужое цела, як свайго ворага, які хоча загнездзіцца ў новым целе (разумеецe хіба, што робіць гэта наслепа, не разумеючы карысці, але нічога не парадзім на тое, што арганізм не мае «свайго розуму»). Адносячыся да чужога цела як да ворага, арганізм стараецца знішчыць яго.

У медыцыне аднак вядомы выпадкі ўдачнага перашчаплення скуры ці нават ныркі, але толькі ў людзей біялагічна аднолькавых, г. зн. у аднаяйкавых блізнят. Але ўжо ў блізнят двуяйкавых, перашчапленні не прыймаюцца. Апошнім часам аднак удалося медыцыне як бы ашукаць арганізм.

## ДЖОН РЫТЭРС НА ПАРОЗЕ СМЕРЦІ

24-гадовы амерыканец, Джон Рытэрс ужо некалькі год хварэў на запаленне нырак.

— Абедзьве яго ныркі ўжо ў большай частцы знішчаны і хутка ўвогуле перастануць працаваць, а тады... — раскладаў бязрадна рукі лекар-спецыяліст, гаворачы да маці Джона. Мо' ёсць яшчэ адна дарога, але вельмі цяжкая. Сын ваш мае брата — блізняка. Калі б той хацеў аддаць сваю нырку, мо' б удалося яе прышчапіць. Паўтараю, — можа, — бо справа не простая і няпэўная. Такія аперацыі выключна праводзіць др. Джон Мерыль у клініцы Універсітэту Гарвард (ЗША). Маці і брат злавілі гэтую думку як апошнюю дошку ратунку. Андры без слова сказаў, што аддасць сваю нырку, абы выратаваць брата.

Калі ўся сям'я прыехала да доктара Мерыля, маці на яго пытанне адказала, што браты непадобныя да сябе, што яна заўважыла ў іх многа розніцы. Нягледзячы на гэта др. Мерыль і яго супрацоўнікі правёўшы баданні, сцвердзілі, што ёсць мажлівасць перашчаплення. А каб упэўніцца яшчэ больш, пастанавілі найперш зрабіць пробу: перашчапіць скуру.

З рукі Андры выразалі кусочак скуры і прышчапілі яго на руку хворага Джона. На працягу першых дзён здавалася, што скура прыймецца. Ужо нават вызначылі тэрмін аперацыі перашчаплення ныркі. Але вось на два дні да тэрміну кавалак скуры пачаў вянуць, высыхаць і курчыцца. Было ясным, што перашчапленне не ўдалося.

— Нажаль аперацыя ў такіх умовах немагчыма. Адразу вядома, што будзе — сказалі засмучаныя лекары.

— Ратуйце яго — умаляў Андры — бярыце маю нырку і прышчапляйце, а можа ўдасца.

Узрушаны просьбамі др. Мерыль пастанавіў выкарыстаць апошнюю шансу, хоць не верыў у поспех.

## АПЕРАЦЫЯ

Хворага Джона пачалі напраменьваць рэнтгенам (праменні, якімі робіцца прасвятленне). Гэта для таго, каб на нейкі час знішчыць сілы арганізма, якія супраціўляюцца прыняць чужое цела. Джона памешчана ў спецыяльнай кабіне, а велізарны рэнтгенаўскі апарат з адлегласці некалькіх дзесяткаў сантыметраў праменяваў на ўсё цела. Гэта паўторана некалькі разоў. Так што арганізм Джона атрымаў вялікую, хоць не смяротную порцыю рэнтгенаўскіх праменняў.

У наступны дзень пачалася аперацыя. Адбылася яна ў двух аперацыйных залах. На адным стале ляжаў здаровы Андры, а на другім — хворы Джон. Адны лекары вынялі ўспёнаму Андрэву левую нырку, другія ў той час падрыхтавалі да аперацыі Джона.

І вось цёплая, жывая, закрываўленая нырка з Андрэва перасelена ў арганізм Джона. Усе крывяныя сасуды былі сшыты і кроў Джона пачала напаўняць нырку Андрэва. Нырка пачала працаваць.

Ці аднак такі стан будзе трымацца доўга? Ці ахоўныя сілы арганізма дастаткова былі знішчаны праменнямі, каб нырка прынялася на заўсёды — прырасла. А мо' было замнога праменняў?

Усё гэта непакоіла лекараў.

Зрэшты па аперацыі лекары вынялі Джону абедзве яго хворыя ныркі, так, што калі б нырка атрыманая ад брата адказалася служыць, ніхто ўжо не мог бы выратаваць Джона.

## НЫРКА НЕ ХОЧА СЛУЖЫЦЬ

Джон хутка выздараўліваў. Раны па аперацыі загоіліся, пакідаючы толькі дзве доўгія цёмныя шрамы на ніжняй частцы плечаў.

Прайшло 4, 6, 10 тыдняў і здавалася — усё закончылася шчасліва. Але лекары не былі ў гэтым упэўнены. І вось на 9-ым месяцы пасля аперацыі прыйшла катастрофа. Арганізм Джона пачаў перамагаць чужую нырку.

Тады др. Мерыль пастанавіў яшчэ раз здушыць адпорнасць арганізму Джона. Яшчэ раз насветліў яго рэнтгенам, хоць ужо меншай порцыяй праменняў.

І ўрэшце на гэты раз атрымаў поўны поспех.

Нырка ізноў пачала нармальна працаваць. Джон зноў пачаў выздараўліваць і лекары на гэты раз былі ўжо пэўныя, што Джон вылечаны.

Цяпер ад аперацыі мінула 20 месяцаў. Джон і яго геройскі брат распачалі зноў вучобу на ўніверсітэце. Адчуваюць сябе добра.



Браты Джон (злева) і Андры. Кожны з іх мае цяпер па адной нырцы.

---

Замест сардэчных тайнаў

### ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!

Я заўсёды чытаю парады для закаханых — адказы Сэрцайка. І трэба сказаць, што ў гэтых парадах закранаюцца справы, якія датычаць многіх маладых людзей.

Я хачу ў сваім лісце да Сэрцайка закрануць справу першага месячнага (свайго часу). Мне было 15 год, калі я першы раз «захварэла». Зараз мне 20 год. Была я тады ў Беластоку ў свайго дзядзькі. Ахапіў мяне вялікі страх. Я не знала, што са мною робіцца. Мала не згарэла ад сораму. На шчасце заўважыла гэта жонка майго дзядзькі. І яна мне выясніла ў чым справа. Цёця расказала, што і як у гэты час трэба рабіць. Я была ёй удзячна. Але вялікую крыўду мела да сваёй мамы, якая не сказала мне, што нешта такое мяне чакае і што гэта з'ява нармальная ў кожнай жанчыны.

Па-мойму, ды і ў кнігах я часта чытаю, мацеры павінны заўчасу расказаць сваім дочкам аб тым, што пэўнага дня ў іх паявіцца месячнае, што гэта нічога страшнага, а абазначае толькі тое, што дзяўчынка сталася жанчынай і з гэтага часу можа радзіць дзяцей. Маці павінна так падрыхтаваць сваю дачку, каб тая з'яўленне менструацыі («свайго часу») успрыняла са спакоем і... задавальненнем, а не са страхам, які можа пакінуць дрэнны след на здароўі.

Галя Н.
Лапы

### АД СЭРЦАЙКА.

**Як кажуць, я рукамі і нагамі падпісваюся пад тым, аб чым сказала Галя Н. І ўсім маткам раджу: — прачытайце яшчэ раз вышэй друкаваны ліст.**

**Ад сябе дадам толькі, што «свой час» (інакш — «месячнае», «менструацыя») у жанчын сведчыць аб тым, што жанчына з'яўляецца здаровым і нармальным чалавекам. Жанчына без «свайго часу» — хворая жанчына, у яе арганізме штосьці не ўсё ў парадку, не гаворачы ўжо аб тым, што такая жанчына не можа мець дзяцей.**

---

## Колькі каштавалі войны

Швейцарскія вучоныя апублікавалі нядаўна прыблізную статыстыку ваенных дзеячоў за апошнія 5 тысяч год. Для гэтага ім патрабавалася скласці 73 тысячы картак і на аснове 876 тысяч даных зрабіць з дапамогай электроннай машыны 850 тысяч вылічэнняў. Аказалася, што з 3.200 гадоў да нашай эры чалавецтва пражыло ў міры ў агульнай складанасці толькі 292 гады. У астатнія гады адбылося 14. 513 вялікіх і малых войнаў, якія каштавалі 3 мільярды 640 мільёнаў чалавечых жыццяў. Ваенныя расходы і страты за той жа час склалі звыш 2.150 трыльёнаў швейцарскіх франкаў. Калі выразіць гэтую суму ў золаце, атрымаецца стужка гэтага каштоўнага металу, якой можна аперазаць экватар, таўшчынёй у 10 метраў і шырынёй у 161 кіламетр.

---

# МОДА



1. Белая плісованая спаднічка і свабодная блузачка цёмнага колеру.



2) Гарсонка. Лямоўкі варатніка і пояс белыя.

**УВАГА!**

Тэкстыльныя магазіны маюць вялікі выбар танных матэрыялаў у цане ад 30 зл. — 140, з якіх пашыеце гэтыя рэчы.

---

# Усякая ўсячына

### ХТО НАЙГАЛАСНЕЙШЫ



У многіх англійскіх гарадах дагэтуль утрымалася функцыя «гералдаў» — чыноўнікаў, якія на публічных плошчах адчытваюць пастановы гарадскіх уладаў.

Апошнім часам адбыўся конкурс на самага галаснога geралда Вялікабрытаніі. Першае месца заняў 71-гадовы Чэрльз Люкэт (на здымку).

### МАЯК

Самому старому маяку, з тых, якія дагэтуль дзейнічаюць — 660 год. Ён стаіць у вусці Эльбы. На працягу яго «жыцця» агонь на ім падтрымліваўся спачатку дровамі, потым нафтай, а зараз электрычаствам.

### ГАЛАВА НА ПЯСКУ

Гэтая страшная карціна галавы на пяску не з'яўляецца таямнічай і па-сутнасці зусім не страшнай. Проста жыхары аколіц горада Александрыі (Афрыка — Егіпет) маюць звычай лячыць рэуматызм і іншыя падобныя хваробы, закапаўшы хворых па шыю ў гарачых пясках вакол пірамід.



### КАРОВЫ І ДАНЦІСТЫ

У Канадзе з парад данцістаў карыстаюць не толькі людзі, але і каровы. Справа ў тым, што каровы з нездаровымі зубамі менш ядзяць, а гэта паводле ветэрынараў паніжае ўдоі. Адзін канадскі ветэрынар, які займаўся лячэннем зубоў у кароў, прыдбаў 10.000 кліентак.

